Opłatę pocztową uiszczono ryczałtem

Цана асобнага нумару 20 грош.

# БЕЛАРУСКАЯ СПРАВА

Выходзіць два разы ў тыдзень.

| Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12—6. (Wileńska 12, m. 6). Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 гадз. штодня, апрача сьвяточных дзён. Адміністр. ад 9 да 3. | Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 1 зл. 50 гр. Для заграніцы ўдвая даражэй. Перамена адрэса 30 гр. Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі. | Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грошы і на 4 стр. 15 гр. за радок пэтыту ў 1 шпальту. |
|---|---|---|

№. 24 — Вільня, Субота, 17-га ліпня 1926 г. — Год I.

## Балячкі вёскі і змаганьне з імі.

Дужа добрым спосабам пазнаёміцца з балячкамі і настроямі нашае вёскі зьяўляецца перачытываньне друкаваных у нашай часопісі карэспандэнцыяў—за нейкі даўжэйшы пэрыад часу. Вёска—забітая, прыгнечаная, бязрадная—шукае нейкае магчымасьці высказацца, выліць у славах свае крыўды, жальбу, абурэньне. І вёска піша—піша аб усім, што яе рупіць, што ей баліць.

99 карэспандэнцяў, зьмешчаных у 23 нумарох нашае часопісі,—гэта ўжо даволі багаты матэрыял дзеля знаёмства з жыцьцём вёскі ў Заходняй Беларусі. Мы і пастараемся зрабіць хоць павярхоўны аналіз гэтых карэспандэнцыяў—паводле іх зьместу.

На першым месцы па сваей лічбе стаяць карэспандэнцыі з скаргамі на духавенства, на яго прагавітасьць, выслугоўваньне перад польскай адміністрацыяй, зьдзекі над сялянствам, немаральнае жыцьцё. Судзячы паводле гэтых жывых дакумэнтаў, у духоўным стане йдзе сталы маральны расклад, гніцьцё...

Другое мейсца займаюць карэспандэнцыі аб праявах нацыянальнага ўсьведамленьня, культурнага росту нашае вёскі і — рэпрэсіях за гэта! Побач стаіць агульная жальба на адсутнасьць роднае школы і—забойчая крытыка польскіх школ. Далей—факты надужываньня ўлады прадстаўнікамі дзяржаўнае адміністрацыі і—праступкаў іх проці ўгалоўных законаў. Таксама пачэснае мейсца займае жыцьцё нашых фальшаваных самаўрадаў, гаспадараньне ў іх паноў старостаў, надужыцьці працаўнікоў, падбіраных з спэцыяльнымі мэтамі з-паміж элемэнтаў, якіх выкідае, як нягодныя, каранная Польшча. Ведама-ж, што ўсюды стогн стаіць ад падаткаў і даволі дзікіх спосабаў спагону іх! Вёска жаліцца на сваё беззямельле і грубую эксплёатацыю яе на гэтым груньце абшарнікамі, якіх бароне адміністрацыя. Плачуць усе ад „асаднікаў“, якія лічаць сябе „гаспадарамі“ краю і народу... Ня менш жаляцца на паступаньне паліцыі з арыштаванымі — пры „баданях“, на беспадстаўныя арышты, на перасьледаваньне за чытаньне нашае газэты; падаюць факты яўнае правакацыі, устаноўленыя судом. Забівае вёску эканамічна вельмі пашыраная сыстэма прыгону—„адработкаў“, праўкі дарог на абшарніцкіх землях і т. п. Карэспандэнты кляймяць здраднікаў сялянства і беларушчыны, кляймяць работу чужых і „сваіх“ партыяў, выслугуючыхся буржуазіі. Гавораць аб цяжкім жыцьці парабкоў і вясковых наймітаў, аб іх змаганьні за заработную плату й людзкія варункі працы. Награкаюць на „адбудову“, на нястачу лекарскае апекі над вёскай. І гэтак далей.

Вёска ня толькі ўмее жаліцца: яна горнецца да жывой працы, яна шукае прылажэньня для сваей энэргіі, шукае павадыроў і кіраўнікоў.

На гэтым груньце трэба адзначыць жывы водгук вёскі на заклік запісвацца ў гурткі Беларускае Сялянска-Работніцкае Грамады, якая стараецца аб'яднаць у штодзеннай працы й змаганьні за лепшую долю і селяніна, і парабка, і работніка. Народ ахвотна йдзе ў арганізацыю. І арганізацыя мусіць апраўдаць ягонае даверые да яе.

Дзе ёсьць гурток Грамады, зьвязаны з партыйным цэнтрам, — там лягчэй вясьці барацьбу. Кожнаму гвалту, кожнаму надужыцьцю ўлады лягчэй даць адпор, калі справай займецца арганізацыя, калі паслы нашы голасна загамоняць аб ім з соймавае трыбуны. Ня мясцох, у найбольш глухіх куткох дагэтуль пэўныя ў сваей бяскарнасьці „апякуны“ вёскі будуць прымушаны паступаць больш асьцярожна там, дзе ёсьць арганізаваны партыйны гурток. У кожнай грамадзкай справе вёскі, у змаганьні за лепшую плату працоўным, у ўладжаньні зямельных адносінаў, у выбары адпаведных людзей у самаўрады—ўсюды лягчэй дабіцца памысных вынікаў, маючы моцную арганізацыю.

Але змаганьне за долю працоўных ідзе ня толькі намесцы—ў вёсцы: найважнейшыя справы, ад якіх залежыць і буднае нашае жыцьцё, вырашаюцца ў цэнтры дзяржавы—ў цэнтральных дзяржаўных установах. Гурткі Грамады мусяць аб'яднаць расьцярушаныя на вялізарным прасторы краю вёскі, мусяць пракласьці залаты мост між вёскай і местам. Праз іх мусіць голас і воля вёскі дайсьці туды, дзе важацца лёсы ўсяго народу. Гурткі мусяць ладзіць выступленьні сялянства — ў форме рэзалюцыяў, прыгавораў, пратэстаў, пэтыцыяў—ці то ў справе амістыі для ўсіх барацьбітаў за нашу волю, ці то ў справе скасаваньня даразных судоў і кары сьмерці, ці ў справе праектаваных урадам законаў, у справе зьменаў канстытуцыі, закону аб выбарах, правядзеньня зямельнае рэформы, скасаваньня асадніцтва, спагону падаткаў і г. д.

Вось задачы арганізацыі. Яна—кіраўнік вёскі ў змаганьні з мясцовымі балячкамі і крыўдамі; яна—арганізатар голасу і сіл вёскі дзеля ўчасьця ў выступленьнях агульна-дзяржаўнае вагі.

## Новая Работніцкая партыя у Польшчы.

У адным з прошлых нумароў мы падавалі вестку аб расколе ўнутры ППС (Polska Partja Socjalistyczna). Адкалоўшаяся частка, сярод каторай знаходзім цэлы рад выдатных сіл,—заснавала новую партыю—„P. P. S. lewica“.

У шмат мяйсцох, найбольш, пакуль-што, у Сілезіі і Галіцыі, работніцкія арганізацыі старой ППС ўвайшлі ў новую партыю. Выдае яна свой орган—„Robociarz“, які выходзе ў Кракаве.

Аб характары новай партыі і яе задачах найлепш можна судзіць з адозвы, у каторай чытаем:

„Не адзін чэсны сябра партыі ППС выступіў ужо з яе, а мы яшчэ пробавалі ратаваць партыю ўнутры. Мелі мы яшчэ надзею, што чэснай і пастаяннай працай зможам перамагчы ўплыў кучкі здрайцаў, якія апанавалі партыю ды цягнуць з яе для сябе карысьць. Аказалася, што мы вельмі памыляліся. Гурток кар'ерыстаў і наймітаў тэрорам давіў усякі пратэст. Далей аставацца ў партыі няма мэты. Хаваць праўды мы ня можам і ня хочам. Сягодня, калі Польшча стаіць на раздарожжы, калі разгараецца рашучая барацьба аб тое, ці Польшча мае быць фальваркам абшарнікаў і капіталістаў, ці дзяржавай сялян і работнікаў, катам для ўціcканых народаў, ці барцом за вызваленьне іх,—нічога нас з сягодняшнімі правадырамі ППС лучыць ня можа“.

„Ня можам маўчаць,—пішуць далей, — калі мы пераканаліся, што правадыры ППС зрабіліся яўнымі пагромшчыкамі работніцкага руху. Ня можам маўчаць, калі бачым, што ў кожнай цяжкай для буржуазіі хвіліне яны памагаюць ей, ратуюць яе... Ня можам маўчаць, калі прафэсіянальныя саюзы ў іх руках зрабіліся бюрократычнымі апаратамі, зьдзержываючымі барацьбу работнікаў. Ня можам маўчаць, калі ў часе дэманстрацыяў першага мая правадыры ППС забіваюць работнікаў іншых пераканаграньняў...

„Няма для чэсных пэпээсаўцаў іншай дарогі, як парваць з партыяй, апанаванай здрайцамі, і стварыць новую партыю; ППС—лявіца.

„Вы, работнікі з ППС, якія чуеце і думаеце, як мы, якія душыцеся ў балоце, куды ўпіхнулі Вас правадыры, — ідзіце нашымі сьлядамі, уваходзьце ў нашу партыю...

„Сацыялізм, які здрадзілі правадыры ППС,—вось наша праграма.

„Барацьба за Незалежную Сацыялістычную Польшчу, за перадачу фабрык і капальняў грамадзянству, за зямельную рэформу бяз выкупу, проці запрадажы Польшчы заграністым капіталістам, барацьба за работніцка-сялянскі ўрад—вось нашы лёзунгі...

„Да зьдзейсьненьня іх вядзе шлях ня соймавых торгаў, але масавая барацьба працуючых“...

Новая работніцкая партыя „P. P. S. lewica“, як відаць, рашуча парвала з сацыял-угодай і здрадай. Вітаем яе, спадзяючыся, што ня сойдзе яна з шляху, на які станула ў адозьве. **Ш.**

„Robotnik“—орган той часткі партыі ППС, якая дагэтуль апанавана здрадніцкімі правадырамі, пеніцца са злосьці. Спачатку кажа, што ніякага расколу няма, а пасьля, ня маючы магчымасьці ўтаіць яго,—аблівае лявіцу памыямі ды заяўляе, што гэта—„нягодная работа камуністаў“.

## СЯЛЯНЕ і РАБОТНІКІ!

**Памятайце аб сваей радні і таварышах, што сядзяць за кратамі вастрогаў!**

**Дамагайцеся амністыі. Зьбірайце подпісы і перасылайце іх у „міжпартыйны камітэт дзеля барацьбы за амністыю для палітычных вязьняў у Польшчы“.**

**Ведайце, што толькі тады, калі шырокія масы працуючых, калі кожны з нас падасьць свой голас,—урад будзе змушаны даць амністыю.**

**Адрасуйце пісьмы на соймавы клюб Бел. Сял.-Работніцкай Грамады.**

## З Сойму.

### Трэцяе чытаньне ўрадавага праекту аб зьмене Канстытуцыі і аканчальныя пастановы камісіі.

Наагул трэцяе чытаньне ўрадавага законапраекту аб зьмене Канстытуцыі толькі стылістычна зьмяніла прыняты на другім чытаньні тэкст законапраекту.

Гэткім чынам, камісія прыняла амаль не цалком ўсё, чаго дамагаўся ўрад у сваім праекце.

### Прамова прэм. Бартля ў канстытуцыйнай камісіі.

У справе 5 пункту ўрадавага законапраекту, дзе гаворыцца аб дамаганьні ад Сойму вынятковых, ці агульных паўнамоцтваў для прэзыдэнта— **аж да кастрычніка 1927 году**, — выступіў прэм'ер Бартэль.

Яго прамова—вельмі цікаўная для характэрыстыкі новага польскага „парлямантарызму“. Першым чынам прэм'ер пагразіў, што, калі Сойм ня пpыме гэтага пункту, дык урад „зробіць з гэтага свае вывады“, прасьцей: выйдзе ў адстаўку. А тады паны паслы будуць, значыцца, мець да чыненьня ўжо ня з ім, прэм'ерам Бартлем, але беспасрэдна з... самім маршалкам Пілсудскім, ці— яшчэ больш „беспасрэдна“—з яго „батам“...

„Бяз права дэкрэтаваньня ўрад ня здолее выпаўніць сваю праграму“, заявіў прэм'ер.

Калі-ж у пана прэм'ера дэлікатна запыталіся ў камісіі, **якіх іменна дый на што** ён дамагаецца паўнамоцтваў, ці апрацаваў ягоны ўрад праграму дзейнасьці, вымагаючую гэткіх ці іншых паўнамоцтваў,—ён адкрыта прызнаўся, што—**не**... Дадаў толькі, што яму — „зусім ня сорамна да гэтага прызнацца“... Што і як яго ўрад мае рабіць, ён яшчэ ня ведае. „Шчыра кажу вам аб гэтым, ня стыдаючыся, можа—дзеля таго, што я не палітык, але прафэсар, а прафэсары ніколі ня стыдаюцца сказаць адкрыта, калі чаго яны ня ведаюць“(!)... „Ведаю толькі тое, што кожны дзень прыносіць новыя рэчы і вымаганьні, дык — сярод істнуючых законаў і правілаў урад чуецца, быццам у клетцы, якая мае 10 тысячаў сьцен“... „Дык урад папросту ня ведае, якія іменна паўнамоцтвы яму могуць прыпатрэбіцца“... Проста кажучы, „канстытуцыйны“ ўрад Бартля трэбуе, каб Сойм даў яму на паўтара году **неабмежаваныя паўнамоцтвы** рабіць усе, што ўрад прызнае патрэбным, „не зварачываючыся за кожнай драбніцай да парляманту“, навет калі гэтай драбніцай будуць... істнуючыя ў дзяржаве законы і ўставы!!

Запраўды ж яшчэ такіх „размоваў“ ня вёў у Польшчы з парлямантам ніводзін урад...

# У Польшчы.

## „Чорны габінэт“ на поштах Польшчы.

Жыдоўская газэта „Гайнт“ даведалася аб новым цыркуляры, разасланым урадам „маральнай санацыі“ да ўсіх поштаў Рэспублікі. Цыркуляр гэты дазваляе ўрадоўцам... раскрываць ды чытаць прыватную карэспандэнцыю (лісты) розных асоб і фірм... Цыркуляр мае на мэце, паводле думкі міністра фінансаў, зьбіраць гэткім шляхам зусім праўдзівыя даныя аб... гандлёвым абароце гэтых асоб і фірм!

Ведама-ж, што гэтай пекнай думкай міністра фінансаў будзе за адным заходам карыстацца пэўна-ж і яго калега — міністар унутраных спраў і то зусім „законна“!

## Пачэсная прапазіцыя б. міністру - сацыялісту.

Міністар унутраных спраў Млодзяноўскі запрапанаваў п. Лявону Васілеўскаму, быламу міністру заграўічных спраў у „сацыялістычным“ габінэце Марачэўскага (першым урадзе, створаным Пілсудскім), — добрую пасаду начальніка... ўсей паліцыі—яўнай і тайнай!—у Рэспубліцы... Каб ня было крыху нялоўка, міністар абяцаў зьмяніць назоў дэпартаманту: замест „беспечэнства“ той называўся-бы „палітычным“... Апошні час п. Васілеўскі працаваў, як экспэрт, у справах „крэсовых“ у ведамай „крэсавай сэкцыі“... Дык, відаць, заслужыў на поўнае даверые, патрэбнае дзеля гэткага высокага становішча...

П. Васілеўскі адмовіўся, але ўжо адна прапазіцыя многа гаворыць.

## 2 гады турмы за маляваньне плякатаў.

Як паведамляе „Robotnik“ (№ 190), нядаўна ў Лодзі адбыўся суд над С. Лесманам, маляваўшым плякаты з дамаганьнем звальненьня пасла Ланьцуцкага. Суд прыгаварыў яго на два гады цяжкага вастрогу.

# Заграніцай.

## Скасаваньне кары сьмерці ў Літве.

Калі ў Польшчы толькі што прадоўжаны „яшчэ на паўгоду“ даразныя суды, з іх сьмяротнымі прысудамі, пры новым урадзе ў дэмакратычнай Літве — скасавана назаўсёды сьмяротная казьнь—ганьба нашых часоў.

## Літоўскія с.-д. і Польшча.

„Elta“ апублікавала заяву правадыра літоўскіх сацыял-дэмакратаў Кайрыса, які афіцыяльна пярэчыць весткам аб нейкіх перагаворах гэтае партыі з ППС у Польшчы. З ППС літоўскія с.-д. ня маюць нічога супольнага, апрача таго, што і адны і другія належаць да таго-ж II Інтэрнацыяналу. Больш таго: літвіны адносяцца да ППС няпрыхільна, што адбілася на такіх-жа адносінах да пэпэзсаўцаў у-ва ўсіх Балтыцкіх дзяржавах, сацыялісты якіх не запрасілі пэпэзсаўцаў на свой кангрэс у мінулым чэрвені ў Рызе.

„Kur. Wil.“, перадруковываючы заяву Кайрыса, адзначае, што літоўскія с.-д. займаюць фронт прыхільны да СССР і варожы да Польшчы.

## Нота Рады Паслоў Нямеччыне.

Рада Паслоў Антанты выслала новую ноту Нямеччыне, закідаючы яе ўраду нарушэньні пастановаў Вэрсальскага Трактату аб разбраеньні Нямеччыны. Нямецкая прэса слушна абураецца на Раду Паслоў. Яна кажа, што дзяржавы Антанты толькі што на „канфэрэнцыі ў справе разбраеньня“ даказалі ўсяму сьвету, што яны ўсе думаюць не аб разбраеньні, але наадворот — аб павялічэньні збраеньняў. Вось-жа тыя-ж самыя „пацыфістычныя“ дзяржавы дамагаюцца ад Нямеччыны далейшага разбраеньня, хаця нядаўна ў Лізе Народаў сцьвярдзілі, што яна выпаўніла ўсе варункі Трактату..., Нямецкая прэса бачыць у гэтым новыя інтрыгі Францыі, якая, ведаючы, што хутка, з уваходам у склад Лігі Народаў, Нямеччына выйдзе ўжо з-пад кантролю Рады Паслоў, падлягаючы ўжо толькі кантролю Лігі, — сьпяшаецца цяпер вышукаць новы повад да ўтрыманьня кантролю саюзьнікаў...

## Крывавыя дэманстрацыі ў Бэрліне.

13./VII. мелі месца ў паўночных часьцях места крывавыя разрухі. Безработныя ў паходзе прыйшлі пад канцэлярыю бюро пасрэдніцтва працы. Чыноўнікі вызвалі паліцыю, якая многа безработных раніла.

## Замест хлеба—волава.

II/VII прафэсіянальныя саюзы ў Парыжу наладзілі дэманстрацыю, пратэставалі яны проці ўмовы з Амэрыкай, паводлуг якой францускія працоўныя масы мусяць сплачываць у працягу 62 гадоў мільярды даўгоў, зробленых буржуазіяй у часе імпэрыялістычнай вайны і пасьля яе. Дамагаліся барацьбы з дарагоўляй і захаваньня 8-мі гадз. дня працы.

Паміж паліцыяй, якая хацела разагнаць дэманстрантаў, і гэтымі апошнімі адбылася сутычка. Некалькі работнікаў цяжка ранены.

## Кат вызвольнай барацьбы рыфэнаў у Парыжу.

Гішпанскаму дыктатару Прымо-дэ-Рывэра, прыехаўшаму ў Парыж,—францускія работнікі нарыхтавалі адпаведнае спатканьне.

У мамэнт, калі ён выходзіў з аўтамабілю, — дэманстранты пачалі сьвістаць і крычаць „Ганьба тырану“. Паліцыя арыштавала 17 чалавек.

## Зусім як у нас...

Уся фашыстаўская прэса ў Італіі пачала гарачую кампанію проці парляманту, дамагаючыся поўнага скасаваньня яго.

Галоўны орган фашызму „Popolo d' Italia“ піша, што Італіі хваце аднаго сэнату, а вілкага іншага „прадстаўніцтва народу—не патрэбна“...

## Горача на румынска-баўгарскай граніцы...

На румынска-баўгарскай граніцы ўзьняўся востры канфлікт, які можа разгарэцца ў авантуру, каторую правакуе, як сьляпая, буржуазная Румынія. Ведама, што Румынія страшэнна нездаволена пазыкай, якую Ліга Народаў дала толькі-што Баўгарыі. Румынія даводзіць, быццам Баўгарыя за гэтую пазыку павялічывае свае збраеньні. Прычапіўшыся да якогась дробнага здарэньня на граніцы, Румынія выслала атрад войска ў Баўгарыю, які пабіў на сьмерць каля 120 баўгарскіх жаўнераў. У дадатак румынскі ўрад выслаў да баўгарскага ўльтыматум, пагражаючы вайной. Адначасна Румынія зьвярнулася да сваіх саюзьнікаў — Грэцыі і Югаславіі, каб яны падтрымалі яе ўльтыматум... Чым скончыцца гэтая балканская сутычка, пабачым.

## Выбухі ў Амэрыцы.

У Амэрыцы вось ужо колькі дзён ідуць страшэнныя выбухі па ўсей шматмільнай мясцовасьці, занятай складамі амуніцыі... Як ведама, выбух аднэй бомбы выклікае сам сабой, нат‘ на значнай адлежнасьці, выбухі іншых. Як пішуць, усяго дагэтуль узарвалася каля 900 тысяч бочак чорнага пораху, 500 тысяч бочак іншых матэрыялаў... Сколькі людзей забіта ды ранена, яшчэ не аблічылі, але пішуць, што першых каля 100, а другіх—да 200. Каля 200 дамоў навакол зьнішчаны выбухамі, сіла якіх дзеяла на адлежнасьці 24 вёрст. Усяго шкоды налічана на 100 мільёнаў даляраў...

Ведама, што ўсё гэтае „багацьце“ прыгатавана Амэрыкай дзеля рыхтаванай вайны з Японіяй.

## Завастрэньне хатняй вайны ў Кітаі.

Чанг-Со-Лін, аб‘яднаўшыся з Ву-Пэй-Фу, пачаў рашучае наступленьне на народныя арміі. Ідуць крывавыя баі на шляхох да Кантону, сталіцы сярэдняга Кітаю, дзе пануе народны ўрад. Калі Кантон будзе ўзяты, тады ўвесь Кітай фактычна пяройдзе пад уладу Японіі.

Цікаўна, што, адначасна з рашучай барацьбой за паняволеньне Кітаю, Японія склікае „агульна-азіяцкую канфэрэнцыю“ — усіх дзяржаў Азіі—дзеля паразуменьня ў супольных справах і, як пішуць, — стварэньня „азіяцкага Лёкарно“...

Ведама-ж, гэтае „Лёкарно“ мае скакаць пад японскую дудку, як эўрапэйскае — скача пад англійскую. Амэрыка вельмі занепакоена ўсей гэтай акцыяй Японіі.

## „Навіны“.

Чу! ўсе вушы настаўляйце:
Польскі ўрад ужо ня сьпіць! —
Адно часу яму дайце,
Дык ён зможа ўсё зрабіць.

Мо‘ падаткаў шчэ замала?
Будзе болей... не бядуй!..
Пяруном выйдзе ухвала:
Толькі грошыкі рыхтуй.

А на кары, да на штрафы
Дык ляпей ня можа быць:
Усе „Ганны і Кайяфы“
На ходу будуць лупіць!

Можа ў вёсках небясьпека? —
„Пастарунак“ будзеш мець...
Вось і панская апека...
Дык чаго яшчэ хацець?!

„Адраджэньня“ час настане, —
Навін будзе у нас шмат:
Паўнамоцтвы ўрад дастане,
І над Польшчай... сьвісьне „bat“!

**Х.**

# Дарожная павіннасьць.

З розных мясцовасьцей Беларусі йдуць скаргі на накладаныя на сялян непасільныя натуральныя павіннасьці пры праўцы дарог і мастоў. Справа гэтая зьяўляецца балючым месцам у-ва ўсіх нашых вёсках. Дзеля гэтага - та трэба ўсім сялянам добра пазнаёміцца з тым, чаго запраўды ў гэтых выпадках вымагае закон, і ў якой меры сяляне самы могуць уплываць на гэтую справу.

Пастараюся тут перадаць вычэрпываючыя інфармацыі, а калі-б каму йшчэ было штосьці ня ясным, то прашу зьвярнуцца да мяне аб паясьненьні.

Дарогі разьдзяляюцца—у залежнасьці ад таго, хто імі заведуе,—на: дзяржаўныя, ваяводзкія, павятовыя і гмінныя.

## Праўка дзяржаўных дарог.

**Дзяржаўныя дарогі** ўтрымлівае сама дзяржава, і за ўсе работы **павінны плаціць** паводле вольнага найму. Толькі ў вынятковых выпадках можа ўлада змусіць усіх, **у каго ёсьць конь** (усё роўна: селянін, ці пан) вазіць матэр‘ял на папраўку. Ня можна аднак прыцягаць да гэтай работы, калі яна робіцца больш, чым за 15 вёрст ад месца жыцьця. Ня можна таксама змушаць да гэтага ў часе палявых работ. Загад на работу дае староста, а згоду—соймік.

Закон аб гэтым гэтак кажа:

Dz. Ust. № 6 Poz. 31. **Art. 2.** W wypadkach, gdy właściwie organy administracji drogowej nie mogą w drodze dobrowolnej umowy uzyskać niezbędnej ilości środków przewozowych do budowy i utrzymania dróg publicznych i mostów, lub gdy posiadacze środków przewozowych żądają za ich wynajęcie zapłaty nadmiernej w stosunku do rzeczywistych kosztów utrzymania środków przewozowych, właściwy starosta zarządzi, na wniosek wymienionych organów po wysłuchaniu opinji sejmiku (rady powiatowej), w miastach zaś, wydzielonych z powiatów, po wysłuchaniu opinji raby miejskiej, przymusowe dostarczenie środków przewozowych za wynagrodzeniem.

Дз. У. № 6, паз. 31.— **§ 2.** У выпадках, калі адпаведныя органы дарожнай адміністрацыі ня могуць шляхам дабравольнай умовы дастаць патрэбнай колькасьці падвод для будовы і ўтрыманьня публічных дарог і мастоў, або калі ўласьнікі гэтых перавозных сродкаў жадаюць за іх наём неразмернай платы, раўнуючы з істотнымі коштамі ўтрыманьня перавозных сродкаў,—адносны староста — на прапазыку памянутых органаў, выслухаўшы погляды сойміку (павятовай рады), у местах-жа, выдзеленых з паветаў, выслухаўшы погляды мясцовай рады,—загадае прымусовую дастаўку падвод за плату.

Работы гэтыя выпаўняе толькі той, хто мае коні і то пачародзе. Бясконныя ані работы ня робяць, ані грошай ня плацяць. Работы гэтыя разьмяркоўваюцца не паводле колькасьці каней у гаспадарцы, а зямлі. Дык пан мусіць зрабіць гэтай работы ў гэтулькі разоў больш, у колькі разоў ў яго больш зямлі, чым, у селяніна.

Вось, што кажа закон:

Dz. Ust. № 6 Poz. 31. **Art. 3.** Obowiązek dostarczania środków przewozowych nakładać należy na posiadaczy tych środków kolejno, równomiernie i z uwzględnieniem stosunków gospodarczych, w szczególności zaś ilości środków przewozowych oraz powierzchni uprawnych gruntów.

Środków przewozowych nie można żądać od ludności, zamieszkałej w odległości większej niż 15 klm. od miejsca robót, o ile wyjątkowe względy nie nakażą przekroczenia tej odległości.

Дз. У. № 6, паз. 31. **§ 3.** Абавязак дастаўкі падвод трэба накладаць на ўласьнікаў іх пачародзе, раўнамерна, прыймаючы пад увагу гаспадарчыя і прафэсіянальныя адносіны, асабліва-ж колькасьць перавожых сіл і паверхню абраблянай зямлі. Ня можна трэбаваць падвод ад люднасьці, пражываючай больш чым за 15 вёрст ад месца работы, калі вынятковыя прычыны ня змусяць пераступіць гэтую адлежнасьць.

Наступны параграф закону гаворыць аб тым, што ня можна сплаціць павіннасьць грашыма, а абавязкава трэба адрабіць. Хто ня хоча даць коней, павінен наняць замест сваіх.

Dz. Ust. № 6 Poz. 31. **Art. 4.** Obowiązek dostarczania środków przewozowych wykonywa się wyłącznie w naturze.

Дз. У. № 6, паз. 31. **§ 4.** Абавязак дастаўкі перавозных сродкаў выконваецца толькі ў натуры.

Аб прыцяганьні да гэтых работ староста павінен загадзя абвясьціць у гмінах.

Dz. Ust. № 6 Poz. 31. **Art. 6.** Zarządzenie o przymusowem dostarczaniu środków przewozowych wydaje właściwy starosta (w myśl art. 2) w formie obwieszczeń publicznych w gminach, których mieszkańców pociąga się do świadczenia drogowego.

Zarządzenie to moze ustanowić obowiązek dostarczania środków przewozowych na ściśle ograniczony okres czasu lub w celu dokonania pewnych robót. Obowiązek ten może dotoczyć rolników tylko w porze wolnej od robót polnych.

Дз. У. № 6, паз. 31. **§ 6.** Загад аб прымусовай дастаўцы падвод выдае адносны староста (згодна з § 2) у форме публічных абвяшчэньняў у гмінах, ад жыхароў якіх вымагаецца выпаўненьне дарожнае павіннасьці.

Загад гэты можа ўстанавіць абавязак дастаўкі падвод на дакладна абмяжованы працяг часу, або для выкананьня пэўных работ. Гэты абавязак можа дытыкаць хлебаробаў толькі ў часе, вольным ад палявых работ.

Гмінная канцылярыя раскладае работу на паасобных гаспадароў. Ведама, сябры гмінных рад павінны глядзець за тым, каб раскладка была зроблена справядліва, — значыцца, каб бедны не працаваў за багатага.

Dz. Ust. № 6 Poz. 31. **Art. 7.** Zarządzenie starosty o przymusowem dostarczaniu środków przewozo-

Дз. У. № 6, паз. 31. **§ 7.** Загад старосты аб прымусовай дастаўцы падвод выконваюць адпавед-

# ХРОНІКА.

**Скандал у шляхотнай „уніяцкай“ сям'і ў Вільні.** Ведама, што сучасная „ўнія“ ня мае нічога супольнага з якімсьці рэлігійным народным рухам.—Папросту—тыя ці іншыя папы, прытым, зразумела,—найгоршыя з іх, робяць на „ўніі“ сваю асабістую кар'еру — матэр'яльную і службовую. Так зрабіў ведамы „архімандрыта Філіп“, так робіць, усьлед за ім, яшчэ некалькі спрытных папоў ці „манахаў“—аматараў весела ды бесклапотна пажыць на гэтым сьвеце.

Гэтаму Піліпу ўлада дала добрую царкву-касьцёл у Вільні, каб толькі – лавіў у вунію „ягнят“. Каб лягчэй лавіць, узяў ён перадусім двух лаўцоў — папа Наўменку ды псаломшчыка Швэлку. Перакруціў на „вунію“, дый шло ўсё добра.

Але вось, як толькі сам Піліп кудысьці выехаў з Вільні на даўжэйшы час, гэтыя новыя „уніяты“, Наўменка ды Швэдка,—перакінуліся ізноў назад у праваслаўе. Архіяпіскап Хвядос „перахрысьціў“ іх ізноў, дык здавалася-б — усё таксама добра. Але-ж вось „Дзен. Віл.“, асабісты прыяцель Піліпа, крычыць гвалту: гэтыя „вуніяты“, вяртаючыся ў праваслаўе, не забыліся забраць напярод пэнсіі, як вуніяцкія папы, дый яшчэ ў дадатку—быццам — з касьцёлу Піліпа забралі ўсе рызы, мітру самага Піліпа і шмат іншых рэчаў...

Дый цяпер толькі „Дзен. Віл.“ прыпомніў, што Швэдка, якога разам з Наўменкай тая-ж газэта так размалёўвала за іх маральнасьць, калі яны йшлі ў каталіцызм,—„ужо судзіўся за кражы дый быў бальшавіцкім камісарам“!

Вось яна—сучасная „вунія“ ў Польшчы...

**Перасьледаваньне прэсы.** № 158 віленскай часопісі „Unzer Tog“ сканфіскаваны, а рэдактар пайшоў пад суд за перадрук тэксту адозвы францускіх пісьменьнікаў і вучоных з дамаганьнем амністыі ў Польшчы.

Часопісь была сканфіскавана на падставе арт. 163, як за памяшчэньне сьвядома фальшывых ведамасьцей.

З тае прычыны, што факт істнаваньня камітэту—агульна ведамы, і што той самы тэкст быў зьмешчаны ў варшаўскіх газэтах,—рэдакцыя „Toga“ зьвярнулася з просьбай аб заступніцтва да некалькіх паслоў.

**Школьныя справы.** Школьная ўлада разаслала да ўсіх дзяржаўных і карыстаючыхся правамі дзяржаўных гімназіяў цыркуляр, у якім устанаўлівае век вучняў.

У падгатаваўчую клясу можна прыймаць дзяцей ад 8—11 гадоў, у першую ад 9 — 12. У наступныя клясы—паводлуг гэтых норм, паступова на год больш.

**Новыя чыгункавыя тарыфы.** Міністэрства чыгунак апрацовывае новы чыгункавы тарыф, паводлуг якога цэны білетаў маюць быць падвышаны на 25%.

Тарыф, калі-б быў зацьверджаны, увайшоў-бы ў жыцьцё ад 1/VIII—26 г.

**Афіцыяльны курс грошы на 16-га ліпня.** Даляр — 9 зл. 13 гр. Залаты рубель — 4 зл. 71 грошы.

16. VII. на чорнай біржы ў Вільні за даляр плацілі 9,25 Чырвонец 45 зл.

# Работніцкае жыцьцё.

## Забастоўка ў Беластоку.

13. г. м. ў Беластоку распачалі забастоўку работнікі ўсіх ткацкіх фабрык.

Праходзіць яна пакуль што спакойна.

## Забастоўка парабкоў.

12. г. м. ў фальварках Каменка і Пратасоўшчына, Горадзенскага павету, належачых да князя Сапегі забаставалі парабкі.

Прычына—затрыманьне выплаты ардынарыі, адмова лекарскай помачы ды нялюдзкае паступаньне адміністрацыі, якая пасьля перавароту Пілсудскага пусьціла яшчэ больш у ход кулакі і палкі.

Князь Сапега адмовіўся нат гаварыць з разьемчай камісіяй.

## Дэманстрацыі безработных у Дрогобычу (Галіцыя).

У Дрогобычу адбылася вялікая дэманстрацыя безработных, у якой прыймалі ўчасьце больш як 2.000 людзей, галоўным чынам жанчын.

Сутычак з паліцыяй ня было.

# „Дэмакратычнае“ рэха дэфэнзыўнага зьезду.

Як ведама, назаўтрае пасьля перамогі Пілсудскага „доктар“ Павлюкевіч зрабіўся пераконаным „пілсудчыкам“: „наши побѣдили“!.. Ведама і тое, што ўдзячная Павлюкевічу прэса „пілсудчыкаў“ горача падтрымлівала яго „зьезд“, рэклямавала асобы „беларускіх дзеячоў“—Павлюкевіча і Аляксюка, рабіла наперад са „зьезду“—палітычны факт вялікага значэньня. Чаму так рабілася, калі гэтыя ўладныя цяпер „пілсудчыкі“ ляпей за іншых ведалі, хто ды што гэты „зьезд“, на які самі давалі „дохтару“ грошы,—ясна кожнаму: партыя (прасьцей: малайцы!) Павлюкевіча — гэта адзіная ўва ўсей Заходняй Беларусі „беларуская“ група, якой польская ўлада можа заказаць тую ці іншую, патрэбную для польскай палітыкі, „беларускую“ праграму і тактыку ў краі. „Партыя Павлюкевіча“ — адзіная ў сьвеце полёнофільская „беларуская“ група, якая зусім „шчыра“ і „безінтэрэсоўна“ кахае Польшчу і польскую ўладу, так сказаць, — згары—яшчэ перад тым, як тыя пасьпеюць ці абяцаюць штосьці зрабіць для беларускага народу, гэтая „партыя“ вымагае ад польскай улады—у доказ будучых вялікіх і багатых міласьцей для Беларусі—цяпер толькі драбніцы — малога задатку: некалькі тысяч злотых для сябе—на пэнсіі панам полёнофілам...

Як ведама, „зьезд“ скончыўся скандалам і правалам. Цудатворны „доктар“ не апраўдаў ускладаных на яго надзеяў. Купіць аказалася магчымым толькі „самога“ з яго „малайцамі“ ды „канфідэнтамі“,—але ня можна было падкупіць ці застрашыць навет тых паўсотні выбраных з $2^1/_2$ мільёнаў беларускага насяленьня краю, за якіх так ручаліся ўсе „канфідэнты“ Павлюкевіча дый ён сам. Рэзалюцыі зьезду, навет значна сфальшаваныя, аказаліся—„не да смаку“ тым панам, што заказывалі Павлюкевічу яго „зьезд“, ды заказалі некалі Валэйшы—самога Павлюкевіча!..

„Kur. Wil.“, які так рэклямаваў сьпярша „зьезд“ Павлюкевіча, пасьля „зьезду“ ня даў аб ім навет дробнай інфармацыі. Сам „доктар“ паляцеў у Варшаву за новымі „задаткамі“, але вярнуўся ні з чым: пан Міністар, нездаволены правалам каштоўнага зьезду, навет перад вочы свае не дапусьціў Павлюкевіча...

Зусім неўспадзеўкі надовячы—больш як цераз два тыдні пасьля „зьезду“ — у „Kur. Wil.“ — зьявілася стацьця **„Рэха беларускага зьезду ў Вільні“**, у якой дае свае „агульныя ўражаньні“ са зьезду „ўласны карэспандэнт“ газэты.

Спрытна назваў гэты карэспандэнт тое, што ён піша—„уражаньнямі“. Ведама-ж, — проці ўражаньняў спорыць ня можна. Але па сутнасьці тое, што падае п. К. См., трэба назваць, нажаль, папросту брахнёй, калі ня сьведамым фальшаваньнем усім ведамых фактаў.

Брахнёй зьяўляецца, што быццам „на зьезьдзе былі рэпрэзэнтаваны ўсе напрамкі беларускай думкі“. Бо-ж сам Павлюкевіч заявіў на зьезьдзе,

# Грамада расьцець і шырыцца!

(м. Трабы Валожынск. пав.).

Сьвядомасьць у нашых ваколіцах расьцець. Угадовая польская партыя „Вызваленьне“ (Wyzwolenie“) ўжо страціла ў нас свае сымпатыі. Абманулі адзін раз—і годзі! Больш ня ўдасца! Разумнейшыя і байчэйшыя ўжо пакінулі даўно рады „Вызваленьня“. Найбольш цяпер у нас ёсьць прыхільнікаў і навет сталых сяброў Белар. Сял.-Раб. Грамады. Газэта „Беларуская Справа“ зусім адпавядае настроям нашых працоўных масаў. Шкада толькі, што яна дагэтуль ўсё выходзіць толькі два разы на тыдзень; трэ' было-б пастарацца Грамадзе ў цэнтры, каб газэта нашая часьцей выходзіла, прынамся 3 разы на тыдзень. Бо ня трэба забывацца, што газэта Грамады—гэта нашая адзіная навука і ўцеха.

Як ужо паведамлялася ў адным з папярэдніх №№ „Беларускае Справы“, справаздаўчы мітынг паслоў Белар. Грамады, вызначаны на дзень фэсту ў Трабах, 12. VII, ня мог адбыцца з прычыны забароны яго праз Навагрaдзкага Ваяводу. Замест мітынгу пад адкрытым небам адбыўся ў той-жа дзень у Трабах партыйны сход сяброў Грамады і сымпатыкаў яе ў зачыненым памешканьні. На сход мяйсцовае арганізацыі Грамады прыбыў з Вільні пасол Сым. Рак-Міхайлоўскі, які зрабіў абшырны даклад на сходзе аб палітычнай сітуацыі, аб праграме і працы Грамады ў цэнтры і на правінцыі, а таксама соймавага клюбу. Даклад цягнуўся каля $1^1/_2$ гадзіны. Ад імя мяйсцовага Гуртка Грамады сэкрэтар выбранага на сходзе Камітэту Грамады ў Трабах, Аляксандар Рыжы, дзякаваў пасла за даклад і за прыезд.

Пасьля сходу было зложана шмат подпісаў за амністыю для палітычных вязьняў.

Паміж зьехаўшымися на фэст з Трабскае, Юрацішскае і інш. гмінаў было пашырана нямала кніжак „Праграма Грамады“ і Інструкцый аб тварэньні арганізацыі Грамады на мяйсцох, а таксама некалькі сот экзэмпляраў апошняга № „Беларускае Справы“.

N.

---

wych wykonywują właściwe władze gminne lub miejskie.

...ныя гмінныя ці мястовыя рады.

Władze te sporządzają w terminie, określonym przez starostę, alfabetyczny wykaz posiadaczy środków przewozowych z podaniem ilości tych środków, które mogą podlegać dostarczeniu we właściwej gminie i podają go do publicznej wiadomości.

Гэтыя ўлады ў часе, азначаным старостай, робяць альфабэтычны сьпіс уласьнікаў падводаў, падаючы колькасьць падводаў, якая можа падлягаць даставцы ў адносной гміне, падаюць гэта да агульнага ведама.

Wykaz ten jest podstawą do powoływania przez władze gminne, wiejskie lub miejskie poszczególnych posiadaczy środków przewozowych do dostarczania ich według zasad, podanych w art 3.

Сьпіс гэты зьяўляецца падставай дзеля прызываньня гміннай, вясковай ці мястовай уладай паасобных уласьнікаў падвод да даставкі іх згодна з вымаганьнямі § 3.

Калі каго скрыўдзілі, то маеце права пажаліцца на гміну ў старостве, але не пазьней 8 дзён ад дня загаду на работу.

Dz. Ust. № 6 Poz. 31. **Art. 8.** Zażalenia przeciw nieprawidłowościom przy sporządzaniu wykazu lub powoływaniu do świadczeń można wnosić do właściwego starosty za pośrednictwem zwierzchności gminnej, magistratu, w ciągu dni ośmiu od dnia ogłoszenia wykazu

Дз. У. № 6, паз. 31. **§ 8.** Скаргі на няправільнасьць пры ўкладаньні сьпісу, або пры кліканьні да выпаўненьня павіннасьці можна падаваць адноснаму старасьце праз гмінную ўладу, ці то магістрат, у працягу 8-х дзён ад дня абвяшчэньня сьпісу.

Zażalenia nie wstrzymują obowiązku dostarczania środków przewozowych.

Скарга не прыпыняе абавязку даставкі падвод.

Пры атрыманьні загаду на работу абвяшчаецца і цана за працу. Плата не павінна быць меншая, чым прнята плаціць у данай мясцовасьці за падводу з хурманом. Па плату хадзіць ня трэба. Грошы павінен выплаціць войт. Калі-ж войт адцягвае з платай, жальцеся на яго ў старостве. Грошы за работу войт атрымоўвае зараз-жа па сканчэньні работы.

Dz. Ust. № 6 Poz. 31. **Art. 9.** Wysokość dostarczania środków przewozowych oznacza Wydział Powiatowy, względnie magistrat.

Дз. У. № 6, паз. 31. **§ 9.** Межы даставкі падвод азначае „Wydział powiatowy“, або магістрат.

Wynagrodzenie powinno być ustalone według następujących zasad: a) dzienne wynagrodzenie nie może być mniejsze, niż rzeczywisty koszt dziennego utrzymania środków przewozowych i woźnicy; b) wynagrodzenie od wymiaru za określone roboty (t. zw. wynagrodzenie akordowe) oblicza się według jednostki przebytej drogi i jednostki wagi przewiezionego ciężaru.

Плата павінна быць вызначана на наступных падставах: а) дзенная плата ня можа быць меншая, чым фактычны кошт дзеннага ўтрыманьня падводы і вазака; б) плата паводле абрахунку за азначаныя работы (гэт. зв. акардовая плата) аблічаецца паводле адзінкі праеханай дарогі і адзінкі вагі перавезенага цяжару.

Wynagrodzenie wypłacają właściwe organy administracji drogowej za pośrednictwem urzędów gminnych lub magistratów niezwłocznie po dokonaniu świadczeń.

Грошы выплачываюць адпаведныя органы дарожнай адміністрацыі праз гмінныя ўрады або магістраты зараз-жа па спаўненьні павіннасьці.

У прыпадку катастрофы, гэта знача паводкі, сьнежных заносаў, пажару і г. д.,—адміністрацыя можа за аплату цягнуць на работу ўсіх жыхароў.

**IV. Świadczenia drogowe w naturze.**

Dz. Ust. № 6 Poz. 32. **Art. 28.** Do robót na drogach państwowych, wojewódzkich i powiatowych w razie zagrożenia lub przerwania komunikacji, spowodowanego wypadkami żywiołowemi, jak: zaspy śnieżne, powodzie, usuwiska, może być zarządzone przez organy administracyjne państwowe pierwszej instancji, a w wypadkach nagłych przez władze gminne, przymusowe dostarczenie środków przewozowych i robocizny za opłatą z właściwego funduszu drogowego, ustaloną przez wydział powiatowy, wzgędnie magistrat w miastach, wydzielonych z powiatów.

**IV. Натуральная дарожная павіннасьць.**

Дз. У. № 6, паз. 32. **§ 28.** Дзеля работ на дзяржаўных, ваяводзкіх і павятовых дарогах у выпадку пагрозы або пераваньня лучнасьці з прычын стыхійных, як: сьнежныя заносы, паводка і г. д., дзяржаўнымі адміністрацыйнымі органамі першай інстанцыі, а ў наглых выпадках гміннай уладай можа быць загадана прымусовая дастава падвод і работы—за плату з адпаведнага дарожнага грашовага фонду, устаноўленую павятовым соймікам, або магістратам у местах, выдзеленых з паветаў.

Калі загад выданы законна, то яго выпаўніць трэба, бо ў інакшым выпадку будзе наложана кара.

Dz. Ust. № 6 Poz. 31. **Art. 10.** Osoby, winne uchylenia się od obowiązku dostarczania środków przewozowych z mocy ustawy niniejszej w drodze administracyjnej podlegają karze grzywny do 15 tysięcy marek lub aresztu do 2 tygodni, wymierzanych w trybie administracyjnym. Niezależnie od tego władze gminne zażądzą dostarczenie środków przewozowych na koszt winnych.

Дз. У. № 6, паз. 31. **§ 10.** Асобы, вінаватыя ў ухіленьні ад абавязку даставы падвод, у мысьль гэтага ўставу, адміністрацыйным парадкам падлягаюць грашавай кары да 15 тысяч марак або 2-м тыдням арышту, вызначаных адміністрацыйным парадкам. Незалежна ад гэтага гмінная ўлада загадае даставку падвод на кошт вінаватых.

Kary i koszty te ściąga się trybem, ustanowionym dla ściągania podatków państwowych.

Кары і кошты гэтыя спаганяюцца такім парадкам, які ўстаноўлены дзеля спагону дзяржаўных падаткаў.

Гэта ўсё, што датычыцца дзяржаўных дарог. У чародным нумары падамо аб ваяводзкіх, павятовых і гмінных.

Пасол Ю. Сабалеўскі.

(Далей будзе).

што паслаў асабістыя запросіны п. п. Станкевічу (ксяндзу) і Ярэмічу, ды—то не як паслам, але як звычайным грамадзянам, а — „усё, што лявей за іх, для яго — абсалютна няпрыемлема“. Жаданьне зьезду паслухаць паслоў было адкінута старшынёй рашуча...

Брахня і тое, быццам на зьезьдзе „была поўная свабода высказываньня сваіх паглядаў і перакананьняў“. Увесь час панаваў тамака страшэнны тэрор—пагрозы, гвалты. Дый няведама яшчэ, чым скончыцца на мясцох справа „апазіцыі“ на зьезьдзе.

Яшчэ большая брахня, быццам „на зьезд прыбылі дэлегаты з усіх беларускіх тэрэнаў“. Аб рэшце „справаздачы“, ці „ўражаньняў“ так дзіўна спазьніўшагася карэспандэнта „Kur. Wil.“—казаць ня будзем.

Назаўтрае пасьля выступленьня органу польскіх „дэмакратаў“ зьмясьціла „адпаведную“ стацьцю і „Słowo“ — орган абшарнікаў. Абодва выступленьні маюць выразную мэту: падтрымаць „карысную“ работу Павлюкевіча перад польскім урадам „маральнае санацыі“ і вярнуць яму ласку і субсідыі пана міністра ўнутраных спраў...

У адным толькі „дэмакраты“ не згаварыліся з абшарнікамі: „Słowo“, пярэчучы заяве „Kur. Wil.“, быццам „зьезд“ Павлюкевіча „аб'яднаў усе кірункі беларускае палітычнае мысьлі“, сцьвярджае, што, наадварот, прэса ўсіх беларускіх палітычных кірункаў—„Грамады“, „Сялянск. Саюзу“ і „Хрысьціянскае Дэмакратыі“—аднолькава заклеймiла работу Павлюкевіча ў сувязі са „зьездам“.

Як бачым, польскімі „дэмакратамі“ і польскімі абшарнікамі ўтвораны адзіны процібеларускі фронт. І адны і другія, ня хочучы рабіць беларускаму народу ніякіх уступак, разам падтрымліваюць сфальшаванае за ўрадовыя грошы „прадстаўніцтва“ Заходняе Беларусі ў асобе ўсё таго-ж „доктара“ Павлюкевіча.

# З жыцьця Беластоку.

У Беластоку пры саборы маем мы ўтраквістычную школу, якая памяшчаецца ў царкоўным будынку. У сувязі з канцом школьнага году, у саборы адбыўся малебен, на якім вяльможны пан кіраўнік гэтай школы скамандаваў пяяць песьню „Boże coś Polskę“. Ня ведаем: абавязкова гэта, ці не?

У мінуўшым годзе вучняў, якія адмовіліся пяяць, кіраўнічка абазвала „камуністамі“, пры тым казала: „за гэта 2 клясы будуць зачынены“. Так і сталася. З памяшчэньняў гэтых клясаў зроблена кватэра, у якой апынуўся кіраўнік школы Я. Бурас.

Школа наша ў тэорыі мае 7 клясаў, а на практыцы толькі 4 клясы, бо рэшту памяшчэньня школы заняў кіраўнік, які трымае навет лёкатора.

Запіс да школы на будучы год вёў ізноў вяльможны пан царкоўны стараста і патрэбаваў ад кожнага дзіцяці па 1 злотаму. Нямаючыя залатоўкі асталіся не запісанымі.

У вялікім пасьце сёлетняга году нашы „айцы духоўныя“ (а маем іх аж двох!) назначылі таксу за споведзь: 1 зл. ад душы. Бяз злотага не хадзі і на парог царквы! **Бесспаведны.**

# Карэспандэнцыі.

**Прысылаючы карэспандэнцыю — не забывайцеся падаваць свой адрас і прозьвішча — для ведама рэдакцыі.**

**Рэдакцыя ня можа памясьціць карэспандэнцыі, ня ведаючы, ад каго яна.**

**Мы ўжо мелі выпадкі, што ворагі нашы прысылалі выдуманыя і непадпісаныя карэспандэнцыі з мэтай падвясьці газэту. Рэдакцыя.**

### Папоўскія прывілеі.

(Вёска Алекшычы).

Іван Васільеў — сьвяшчэньнік Алекшыцкай царквы. Гэтая асоба сымпатычная толькі самым горкім п'яніцам. Так за адну мэтрыку бярэ 10 зл. Часамі прыходзіцца браць па некалькі для суду, і тады яму на мэтрыкі трэ' прадаваць кароўку. Так Варвон Шакоць браў 6 мэтрыкаў для спадку зямлі і заплаціў 9 пудоў жыта.

Прыхаджан называе бунтаўшчыкамі, бальшавікамі. Глядзіць на іх, як на быдла. Мае самую цесную дружбу з паліцыяй. Камандант пастарунку —першы госьць у яго; навет дачку сваю, ня глядзючы на абурэньне ўсяго прыходу, выдаў замуж за паліцыянта.

Вось факты, якія дапаўняюць яго характарыстыку. Памерла ў Варвона Шакоця жонка з сухотаў. Прасіў, каб пахаваць з абедняю ў царкве, але а. Васільеў наадрэз адмовіўся ўнясьці ў царкву і наагул нікога з прыхаджан, памершых на сухоты, ня ўпусьціць у царкву. Але, вось у гэту вясну памерла яго ўласная дэчка, хварэўшая год на сухоты. Цела яе а. Васільеў унёс у царкву, дзе стаяла цэлыя суткі, і пахаваў каля царквы, проціў традыцыйнага тутэйшага звычаю. Бо каля царквы хавалі толькі сьвяшчэньнікаў, а іх сем'і на звычайных магілках. Царкоўны папячыцель запратэставаў перад хаваньнем, каб ні хавалі пад царквою,—бо, калі будуць усе папы хаваць сваіх дзяцей каля царквы, то зробяць праўдзівыя магілкі; царква-ж стаіць пасярэдзіне сяла і хаваньне тут нябожчыкаў наагул пагражае здароўю жывых. Шакоць запытаўся: „ці магілкі толькі для хамаў-мужыкоў?“ а. Васільеў адказаў: „што хачу тое і зраблю, я тут гаспадар!“ — ды абазваў Ш. „бальшавіком“, „бунтаўшчыком“. Калі на другі дзень раніцай сяляне з вёскі катэгарычна запратэставалі, каб не капалі долу каля царквы то а. Васільеў гэтак узлаваўся, што ўпаў у гістэрыку. Пасыпаўся град „камплімэнтаў“. Асабліва ўзьеўся на Варвона Шакаця і Мацея Міськевіча. Першаму рыдлёўкаю рассёк чобат, ды катэгарычна патрэбаваў у паліцыі арышту гэтых двох людзей і ні за што не згаджаўся служыць абедню, калі ня будуць арыштаваны. Камандант, прышоўшы на хаўтуры, выканаў загад: заарыштаваў гэтых людзей, прадзяржаў чуць ня суткі на пастарунку і позна ўначы звольніў. Напісалі пратакол за „нарушэньне багаслужэньня і абразу сьвяшчэнскага сану“. Дзяк даў бутэльку вясковым падлізчыкам, якія сьведчылі, як ад іх вымагалі. Справа пашла ў суд. **М—к.**

### Зьдзек над чалавекам.

(Мільча, Вялейскага пав.),

Хіба паны чуюць сваё безгалоўе, бо ўжо надта зьдзекуюцца над намі. Б'юць і мучаць, без канца. Пан Боркін—арандатар маёнтку Мільча—чапляецца да людзей усё роўна, што сабака ліхі.

Міхал Булыга з в. Мільча гараў поле і ў абед хацеў папасьвіць каня ў рове, што аддзяляе наш выган ад панскага балота. Наехаў на гэта Боркін, накінуўся на селяніна з бізуном, спэцыяльна зробленым для людзей, а як адарваўся бізун, то паваліў селяніна і біў ды таптаў ляжачага ня зямлі чалавека да бяспрытомнасьці. Каня сялянскага забраў і трэбуе 10 зл.

Вось, людцы, чаго мы дажыліся: замест зямлі і волі—бізуны ды зьдзек, як за паншчыны! **Селянін.**

### Памылка ці ашуканства?

(З Дзісеншчыны).

Усім вядома, якія бяспраўі вырабляюць хмары сэквэстратараў на нашых абшарах. Бяруць, прадаюць усё, што можна і ня можна,—бо вядома: дзе-ж селянін дойдзе права і праўды?

Гэтак жыхар вёскі Мірончыкі, Празароцкай гм., Аляксандар Карась атрымаў загад, каб на 28./VI. г. г. прынёс рату панствовага падатку разам з працэнтамі і экзэкуцыйнымі 4 зл. 72 грошы. За гэты падатак у яго ўжо была апісана падушка ў 5 зл. Трэба дадаць, што А. Карась мае сям'і сем душ, а падушкі толькі чатыры. Дык ці меў права сэквэстратар апісаць падушку? Ведама, не! Але калі А. Карась прынёс у гміну належных 4 зл. 72 гр., дык соймікавы сэквэстратар Саматковскі патрэбаваў ад селяніна ўжо 7 зл. А. К. пачаў тлумачыцца, а „пан“ сэквэстратар, бачучы, што папаў не на „цёмнае быдла“, схамянуўся і адказаў, што ён „абмыліўся“. Вось дык лоўкая абмылка! Ніколі не „абмыляцца“, каб узяць менш, а ўсё „мыляюцца“ на больш.

Прысутны пры гэтым войт (нейкі хворы і глухі чалавек, якога стараста, ня пытаючыся і рады гміннае, прыслаў да нас пэўна на курацыю) вельмі дзівіўся, што чалавек ня можа заплаціць 4 зл., а на гэтае трэба апісываць падушку.

Ня дзівуйся, панок, бо каб і ты сеў на дзьве — тры дзесяцінкі з сям'ю ртамі, дык скора пазнаў-бы, што 4 зл. селяніну цяжэй раздабыць, чым каму 400 злотых! Бо іх трэба здабыць цяжкай працай, потам, мазалём; здабыўшы — адабраць ад паўгалодных дзяцей і аддаць на падатак, каб нехта меў магчымасьць смачна есьці, салодка піць і аднаму спаць на трох падушках, а не панашаму: у сямёх—на чатырох падушках!..

**Нядоля.**

### Песьня.

(З Гарадзенскага пав.).

Ня вельмі даўно быў я з хлопцамі з нашае вёскі на рабоце ў Валожынскім павеце, каля мястэчка Вішнева і, падыходзячы да кучкі тутэйшых хлапцоў, якія пялі, учуў яшчэ здалёк якісьці вельмі знаёмы і вельмі блізкі да душы матыў. Прысьпешыў кроку і чую гучныя словы песьні: „... пойдзем з сярпамі, касамі...“ Спыніўся я, прытаіў дыханьне... То-ж пяюць „Ад веку мы спалі“... Пяюць стройна, гучна, падабранымі галасамі арганізаванага хору. І рука мая мімаволі пацягнулася да шапкі. „Чуеце?“—пытаюся ў сваіх хлапцоў?

Не кажэце, людзі, што не расьце сьвядомасьць нашых працоўных масаў! Яна расьце, маленькімі ручайкамі зьліваецца ў адзін паток, каторы абыйме й нашу многапакутную Горадзеншчыну! Z.

## Наканец!..

Гэй, гудзеце весялей, нашы родныя дуды!
Цымбалы, жалейкі—ўтаруйце!
Сьвята сёньня—вялікае сьвята у нас:
Весялей-жа, гучней—ня сумуйце!
Доўга—доўга чакалі мы гэтага дня,
Аж нарэшце такі дачаліся:
Селянін і работнік Беларускай зямлі
У „Грамаду“ ўжо сваю аб'ядналіся!
Плячо аб плячо, рука ля рукі —
Мы разам сталёвай сьцяною
Пад сьцягам чырвоным сваей „Грамады“
Рушым адважна да бою.
Адважна-ж, таварышы, кліч наш гукнем:
„Бедната ўсіх краінаў лучыся“!
Селянін і работнік, ад плуга й станка,
У сваю „Грамаду“ ты гарніся!

Слонім. **„Хмара“.**

# З Радавае Беларусі.

### Крэдытаваньне каапэрацыі Усесаюзным Каапэратыўным банкам.

Па пляну на 3-ці квартал сёлетняга году Усекабанк вызначыў на крэдытаваньне ўсіх відаў каапэрацыі БССР 1.221.000 руб., з гэтай сумы каапэрацыя скарыстала 995.900 руб.

У 4-м квартале Усекабанк мае выдаць каапэрацыі 1.290.000 руб.

### С.-гаспадарчая каапэрацыя ў Бабруйшчыне.

Сетка с.-г. каапэрацыі ў Парыцкім раёне к 26 г. намячаецца прыблізна так: ёсьць у раёне два машынныя таварыствы, два с.-гаспадарчыя таварыствы, тры меліярацыйныя таварыствы, 7 малочных арцеляў і крэдытнае таварыства.

Характэрным і паказальным бокам працы с.-г. каапэрацыі зьяўляецца праца малочных арцеляў. Сяброў с.-г. каапэрацыі налічваецца да сямісот чалавек. Беліцкая малочная арцель (адна з лепшых у раёне) перайшла ў сучасны момант на разьлік малака на жырох. Ёсьць агульнае імкненьне арцеляў перайсьці на сыраварэньне, для чаго патрабуецца доўга тэрміновы крэдыт сел.-гас. банку і свой уласны капітал. Бо ня трэба забываць, што моцным фундамантам каапэрацыйнай справы ўсё-ж павінны быць свае каапэрацыйныя капіталы.

Добрая праца малочных арцеляў штырхнула сялянства раёну к павялічэньню разьвядзеньня буйнай рагатай жывёлы, а апошняя ў сваю чаргу робіць надта прыемны ўплыў на пашырэньне плошчы травасеяньня і павялічэньне засеву карняплодаў.

### Падрыхтоўка беларускіх настаўнікаў.

16-га чэрвеня ў Мазыры адчыніліся настаўніцкія шасьцітыднёвыя курсы. Праца распачалася адразу бяз жаднай урачыстасьці, як гэта было ў мінулым годзе. Усяго настаўніцтва працуе на курсах 90 чалавек, з якіх 60 чалавек на дзяржаўным утрыманьні. Праца на курсах пастаўлена добра, і настаўніцтва вельмі цікавіцца ёю, бо выкладаецца тое, што неабходна настаўніку вясковай школы ў сваёй штодзённай працы. Больш за ўсё настаўніцтва цікавіцца практычнай працай у практычнай школе, якая адчынена пры курсах.

### Дзіцячыя сады ў вёсцы.

Па пляну Народнага Камісарыята Асьветы, да восені будуць адчынены ў вёсках 23 дзіцячыя сады.

Кожны сад разьлічан на 60—70 дзяцей.

### Вячэрнія школы рабочай моладзі.

З восені ў Менску будуць працаваць 3 вячэрнія школы падвышанага тыпу для рабочай моладзі (2 беларускія і 1 жыдоўская) з трохгадовым курсам навучаньня

Праз год гэтыя школы рэарганізуюцца ў 4-хгодкі.

# Паштовая скрынка.

**Атрымана:**

Ад:—Якіма Сяновіча, Майсея Касьцюка, Сьцяпана Астапчыка, Базыля Хадневіча, Аляксандра Біча, П. А. Монтавілы, Браніслава Літвіна—па **2 зл. 50 гр.**

Ад: — Уладыслава Харужага, М. Гундзіловіча, І. Піваварчыка, Гальяша Дымшы, Базыля Панкевіча, Язэпа Дзяміда, Надзеі Шэйны, Тодара Гаўрыльчыка, Клемэнса Грымуты, Міхала Сідаровіча, Віктара Пачэпкі, Ф. Клаўсуця, Тамаша Зноркі, Уладзімера Нехвядовіча, Базыля Данілковіча, Яна Дэшкоўскага, Паўла Ваўкавыцкага, Антона Стадольніка, Аляксандра Зёнткевіча, Базыля Касьцючына, Аляксандра Вашкевіча, Яна Матусэвіча, Д. Гісіча, М. Любэцкага, Яна Далядудкі, Алякс. Шэрабайкі, Вінцэнтага Ляскоўскага, А. Баброўкі, В. Катовіча, Ёселя Каплана, Мікалая Забаўчука, Антона Нікіцюка, Міхала Русіна, Ю. Кулака, Якуба Качука, Яна Бурака, Адама Камара, Мікалая Нахая, Мірона Танковіча, М. Нікіфароўскага. **па 3 зл.**

Ад:—Антона Цупрыка, А. Анішчыка, Сьцяпана Герасімчыка, Язэпа Лісоты, Д. Касьцюка, Аляксандра Чэтыркі, М. Сосны, Язэпа Камара, „Грамады“ в. Вострава, Міхала Гоцкі, Язэпа Драздоўскага, Лукаша Рамейкі, Сьцяпана Сіткевіча, Аляксандра Вашкевіча, Сымона Саванца, Д. Зенкевіча, Шлоцкага, Станіслава Пакульневіча, Яна Кулешы, **па 4 зл.**

Ад:—Яна Дурэйкі, Мікалая Бохана і Уладзімера Кахановіча, **па 4 зл. 50 гр.**

# АБВЕШЧАНЬНЕ.

## „Беларускі Камітэт у Варшаве“.

У аўторак, дн. 20 бяг. ліпня, а гадз. 6 папал. ў Варшаве пры Макатоўскай вул. № 12, кв. 4 адбудзецца паўторна **Агульнае Сабраньне** „Белар. Камітэту ў Варшаве“, на каторае Урад К-ту склікае ўсіх сваіх сяброў, а такжа ўсіх жывучых у Варшаве беларусаў. Сабраньне адбудзецца паўторна, ня гледзячы на лік прысутных.

Парадак дня: 1) прыняцьце новых сяброў, 2) справаздача за мінуўшы год, 3) выбары ўраду, 4) бягучыя справы.

Адказны-Рэдактар: **С. Макулік.** Друкарня **Н. Левін і Сын,** Вільня, Нямецкая 22 Выдавец пасол на Сойм **П. Мятла.**